Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 9 (31) ВІЛЬНЯ, 5 ВЕРАСЬНЯ 1938 г. ГОД III

## Прычыны няўдач у тварэньні беларускага цэнтру.

У папярэднім нумары „Бел. Фронту“ мы пісалі аб натугах беларускага народу стварыць *свой* палітычны цэнтр, які-б узяў спадчыну па Полацку. Рэзультатам гэтых натугаў быў акт 25 сакавіка, або Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі. Разважаючы гэныя натугі і рэзультаты іх, трэба сьцьвердзіць, што да пазытыўных рэзультатаў дайшоў беларускі народ толькі ў дзялянцы *юрыдычнага* творства, іменна, вуснамі сваіх прадстаўнікоў абвесьціў Незалежнасьць Беларусі. Але ў дзялянцы *практычнага* творства беларускі народ не дайшоў да пажаданых рэзультатаў і незалежнасьці свайго краю не зрэалізаваў. Чаму? На гэта было многа прычын, над некаторымі з іх тут затрымаемся.

Трэба сказаць шчыра і адкрыта, што *першай і галоўнай прычынай* была адсутнасьць сьведамасьці ў шырокіх масах беларускага народу аб патрэбе незалежнасьці. У 1918 годзе, калі была абвешчана юрыдычная незалежнасьць, гэтую патрэбу разумелі толькі „вярхі“ беларускага народу ў асобах малой тады яшчэ налік бел. інтэлігенцыі, а „нізы“ на ўсе довады адказвалі па-свойму: у Беларусі няма солі і газы... Мала памагалі доказы, што без свае солі і газы існуе шмат дзяржаў і што за плады свайго краю выпісваюцца з заграніцы ня толькі соль і газа, але і важнейшыя прадметы! Народныя масы незалежнасьці не разумелі. Пры такіх настроях увесь цяжар рэалізаваньня незалежнасьці ўзяла на сябе бел. інтэлігенцыя. І яна зрабіла што магла: стварыла ўрад, навязала дыпляматычныя зносіны з іншымі дзяржавамі, старалася здабыць ад іх прызнаньне незалежнасьці Беларусі і г. д., але маса беларускага народу дзеля свaей нясьведамасьці асталася пасыўнай і, агулам бяручы, у будаўніцтве свайго беларускага палітычнага цэнтру ўдзелу не прыняла. Ані інтэлект беларускіх народных масаў, ані іх воля ня былі яшчэ падгатаваны да такой вялікай справы, як рэалізаваньне назалежнасьці.

*Другой прычынай*, якая выплывае цалком з першай і якую тады (1918 г.) і пасьля добра разумелі ў Менску, была адсутнасьць сваей вайсковай сілы. Трэба сказаць, што аб гэтым беларускія дзеячы клапаціліся, пасылалі дэлегацыі да „главковерха“ Крыленкі, каб пазволіў фармаваць беларускія аддзелы, прабавалі саматужна стварыць у Менску беларускі полк, ведаючы, што без вайсковай сілы ніводзен народ дагэтуль сваей дзяржавы не стварыў, як аб гэтым сьведчыць гісторыя ўсіх народаў і ўсіх эпохаў. Аднак усе іхнія стараньні асталіся без рэзультату. Потым, у 1919—20 гадох былі спробы утварэньня беларускага войска пад эгідай Польшчы, была нават паклікана да жыцьця марш. Пілсудскім Беларуская Вайсковая Камісія, якая мела на мэце ўтварэньне белар. войска ў сувязі з фэдэрацыйнымі плянамі Маршалка; яшчэ далей (у 1920 г.) была ўтворана ў Случчыне бел. міліцыя, якая падняла нават аружнае паўстаньне за незалежнасьць Беларусі (г. зв. Слуцкае паўстаньне), але і гэтыя ўсе спробы дзеля розных прычын не далі пазытыўных рэзультатаў: беларусы свайго войска не стварылі.

Гэтыя дзьве прычыны: адсутнасьць агульнага ўсьведамленьня ў бел. народзе аб патрэбе незалежнасьці і адсутнасьць сваей вайсковай сілы прывялі да таго, што юрыдычная незалежнасьць Беларусі ня сталася фактычнай, хоць палітычныя варункі будаваньня гэтай незалежнасьці былі ў той час спрыяючымі, як рэдка калі ў гісторыі.

Беларускія дзеячы ў Менску ясна тады здавалі сабе справу, што першым варункам рэалізацыі незалежнасьці ёсьць, каб народ у сваей масе гэтай незалежнасьці хацеў і да яе імкнуўся, не шкадуючы сваіх, хоцьбы нават найбольшых ахвяр; а другім варункам ёсьць прызнаньне гэтай незалежнасьці іншымі дзяржавамі, ці групай дзяржаў, для якіх гэтая незалежнасьць ёсьць карыснай. У той час гэтакіх дзяржаў ня было.

Дык галоўнай прычынай няўдачы ў будаваньні свайго беларускага цэнтру была адсутнасьць усьведамленьня і волі народу ў гэтым кірунку, або інакш кажучы, адсутнасьць духовых і фізычных сіл у беларускім народзе. Узрост гэтых сіл быў ўсякімі спосабамі спыняны тымі, для каторых стварэньне ці існаваньне незалежнага беларускага цэнтру было непажаданым.

Дзеля гэтых прычын не паўстаў незалежны беларускі палітычны цэнтр у Менску.

## КАНФЛІКТ НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ І НА БЛІЗКІМ ЗАХАДЗЕ.

Прыглядаючыся да сучаснага міжнароднага палажэньня, трэба сьцьвердзіць, што яно поўнае грозных праяваў. Ужо трэці год (ад 18.VII.36 г.) як ідзе крывавая вайна ў Гішпаніі, дзе, праўду кажучы, бьюцца ня толькі гішпанцы паміж сабою, але Італія і Нямеччына з Францыяй і Саветамі; ужо другі год (ад 12.VII.37 г.) ідзе яшчэ большая вайна ў Кітаі, дзе Японія ваюе ня толькі з кітайцамі, але з Саветамі, Францыяй і Англіяй; але мусіць гэтага мала, бо яшчэ на Блізкім Захадзе, каля Чэхаславаччыны, зьбіраюцца вялікія хмары, з якіх можа ўдэрыць гром і расхадзіцца сусьветная бура.

Нядаўны савецка-японскі канфлікт, які нарабіў столькі шуму, і цяперашні канфлікт Нямеччыны з Чэхаславаччынай, настолькі важныя, што ім трэба прысьвяціць спецыяльны агляд. Спачатку затрымаемся над падзеямі на Далёкім Усходзе, якія ўжо прамінулі, а потым разгледзім падзеі на Блізкім Захадзе, якія надыходзяць. Разглядаючы гэтыя падзеі, мы будзем разважаць галоўна прычыны і мэты гэтых падзеяў.

**На Далёкім Усходзе.** Канфлікт на Дал. Усходзе трываў роўна месяц, ад 11.VII да 11.VIII сёлета. Як пачаўся, так і скончыўся ён зусім нeспадзявана і дзеля гэтага зьяўляецца вялікай загадкай. Усе былі пракананы, што Саветы, займаючы Чанг-Ку-Фэнг, пастанавілі ўмяшацца ў японска-кітайскі канфлікт і, карыстаючыся с таго, што японцы „ўгразьлі“ у Кітаі, даць ім бой. Гэтакае разуменьне савецкага выступленьня было зусім лёгічнае і натуральнае, бо кожны ведае, што паміж Саветамі і Японіяй дойдзе некалі да рашучага змаганьня і што Саветы ня могуць чакаць, пакуль Японія расправіцца з Кітаем і возьмецца за іх... Аднак Саветы на вайну не адважыліся. Чаму? Відаць, былі нейкія важныя, як нутраныя, так і вонкавыя прычыны.

Саветы заўсёды вясьцілі ў сябе і па ўсім сьвеце свайго роду **пацыфізм,** заяўляючы пры кожнай аказіі, што яны вайны ня хочуць, што да вайны імкнуцца толькі фашыстоўскія і капіталістычныя дзяржавы. Праўда, гэты пацыфізм меў болей агітацыйны, чым сапраўдны характар, аднак трэба прызнаць, што гэты пацыфізм укараніўся ў савецкіх масах. Народ у Саветах ваяваць ня хоча, бо ня мае за што і яго да вайны трэба разагітаваць. Гэткая агітацыя ў Саветах ужо пачалася.

Але яшчэ важнейшай прычынай адступленьня Саветаў было **няпэўнае міжнароднае палажэньне.** Як мы пісалі ў прошлым нумары „Б. Фр.“, Саветы жадалі ад Англіі загварантаваньня іхных заходніх граніц, калі яны выступяць на Усходзе. Відаць, што гэтакай гваранцыі не атрымалі. Дый трудна атрымаць! Англія, хоцьбы нават разам з Францыяй, ня зможа ўпільнаваць Нямеччыны (а магчыма і іншых), каб яны не скарысталі з аказіі і ня выступілі проціў Саветаў, калі тыя „угразнуць“ у сібірскіх тайгах або на сопках Манджурыі. А такое выступленьне было-б зусім магчымым, бо ані Нямеччына, ані Польшч не маглі-б дапусьціць да перамогі Саветаў над Японіяй, бо тады кірунак савецкай палітыкі зьвярнуўся-б на Захад... Перамогшы Японію, Саветы разам з Кітаем — з аднаго боку, Англіяй і Францыяй з другога — імкнуліся-б да ліквідацыі Нямеччыны і Італіі, а па дарозе магчыма яшчэ і іншых дзяржаў.

Трэцяй прычынай быў **няпэўны рэзультат вайны** з Японіяй. Яшчэ вялікае пытаньне, хто перамогбы ў сав.-японскай вайне, нават калі-б дапусьціць, што разам з Саветамі ваяваўбы Кітай? Пры агульнай мабілізацыі Японія магла-б выставіць да 10 мільёнаў салдат, добра ўваружаных і ў роспачы гатовых на ўсё. Праўда, Саветы маглі-б выставіць болей, але яны маюць два недахваты: далёкасьць арэны ваенных падзеяў, куды вядзе толькі адна чыгунка, і нутраны непарадак у іхнай арміі, зложанай з нездаволеных элемэнтаў. Японская армія, як сьцьвярджаюць зусім бесстаронныя абсэрватары, з гэтага пункту гледжаньня стаіць вышэй за савецкую. У часе баёў за Чанг-Ку-Фэнг здараліся выпадкі пераходу сав. салдат на старану Японіі. А гэта дрэнны знак!

Пры ўсім гэтым вайна з Японіяй была-б даўгая і крывавая, Японія, пастаўленая перад пытаньнем: быць ці ня быць, змагалася-б да канца, аслабляючы Саветы і адцягваючы іх сілы з Эўропы. Аслабленыя вайною з Японіяй Саветы не маглі-б ужо адыграць рашучай ролі ў будучай сусьветнай вайне, якая набліжаецца, дый не маглі-б кінуць сваей арміі на Захад, проціў Нямеччыны, калі-б гэтая апошняя напала на Чэхаславаччыну... А відаць, для Англіі і Францыі савецкія рэзэрвы патрэбны, каб узяць у клешчы Нямеччыну, калі яна адважыцца расправіцца з Чэхаславаччынай. А перакідаць сваю армію з аднаго фронту (ўсходняга) на другі (заходні) Саветы ня мо-

гуць дзеля далечыні і дзеля недахватаў у сваім транспарце. Даволі сказаць, што перавоз войска з Манджурыі на нямецкую граніцу трываўбы каля 2 месяцаў! За гэты час на фронце маглі-б адбыцца рашучыя падзеі...

Усе гэтыя прычыны, як нам здаецца, прывялі да раптоўнага і нават крыху тэатральнага (з голасам труб: „спыніць агонь“!) заканчэньня савецка-японскай спрэчкі за Чанг-Ку-Фэнг. Хто там перамог — згадаць трудна, але астаецца фактам, што: японцы 31.VII.38 выбілі сав. салдат з Чанг-Ку-Фэнгу, савецкія салдаты адабраць яго да 11.VIII не патрапілі. Чые былі большыя страты, мы ня маем даных; кажуць, што савецкія, але ня ў тым справа. Справа ў тым, што дзеля нейкіх **важных** прычын аканчальнае змаганьне Саветаў і Японіі адложана на потым... Чаму? Можа дзеля нямецкіх манэўраў і трывожных падзеяў на Блізкім Захадзе?

**На Блізкім Захадзе.** Справа Чэхаславаччыны і зьвязаныя з ёю ўсе іншыя справы ў апошніх тыднях дайшлі да найбольшага напружаньня. Нічога не памог і прыезд у Чэхаславаччыну лёрда Рансімэна, які мае на мэце знайсьці нейкі кампраміс паміж Ням. і Чэх. Дагэтуль кампрамісу ён не знайшоў, бо ані Ням. ані Чэх. на ўступкі ня ідуць. Усе чакалі на прамову англійскага мін. Саймона (Simona), (27.VIII.38), але ён сказаў толькі тое, што абедзьве стараны павінны пайсьці на ўступкі... Гэтыя словы выклікалі нездаваленьне ў Бэрліне, дзе прэса пісала, што судэцкія немцы ня маюць з чаго ўступаць і што Гэнляйн павінен далей стаяць на грунце сваіх 8-мі пунктаў.

Якія-ж гэта пункты? Вылічым іх: 1) роўныя правы судэцка-нямецкай народнасьці з народам чэскім; 2) судэцкія немцы атрымліваюць праўную аўтанамічную асабовасьць; 3) азначаецца і прызнаецца нямецкая тэрыторыя; 4) поўны самаўрад ува ўсіх дзялянках жыцьця; 5) стварэньне праўнай абароны для тых грамадзян, якія прабываюць па-за сваей нац. тэрыторыяй; 6) скасаваньне бяспраўных адносін, якія тасаваліся да судэцкіх немцаў ад 1918 г. і даньне ім адшкадаваньня за страты; 7) прынцып: у нямецкай акрузе нямецкія ўрадаўцы; 8) поўная свабода прызнавацца да нямецкай народнасьці і нямецкага сьветагляду (гітлерізму). Гэтакія варункі немцаў. Ясна, што прыняцьце гэтых варункаў зрабілаб судэцкіх немцаў сугаспадарамі Чэхаславаччыны, потым пайшліб іншыя варункі як у нутраной так і вонкавай палітыцы (парваньне саюзу з Саветамі), а потым Чэх. была-б узалежнена цалком ад Нямеччыны. На гэткія варункі чэхі ня ідуць.

У маі сёлета Нямеччына ўступіла, бо ня была яшчэ гатова да рашучай расправы, асабліва ня былі яшчэ скончаны ўкрапленьні на францускай граніцы і ня было змабілізавана паўтара мільёна салдат „на манэўры“. Цяпер гэта ўсё ёсьць: і ўкрапленьні скончаны і сьцягнута армія над чэскую граніцу. Дык некаторыя кажуць адкрыта: **набліжаюцца рашучыя дні.** Адна надзея на лёрда Рансімэна, але, як піша прэса, і яму ня ўдаецца скланіць чэскі ўрад да ўступак. Чэскі ўрад заяўляе, што пасьля ўсіх уступак болей ужо ўступаць ня можа... Гэтаксама кажа Бэрлін. Значыць, астаецца аружны канфлікт, як апошні і аканчальны выхад, ці інакш кажучы, астаецца права сілы. Але ці сіла вырашыць? Бо процiў нямецкай сілы выступае іншая сіла: Францыя і Саветы. Яны заявілі, што паддзержаць сваю саюзьніцу нават аружнай сілай. Англія вуснамі прэм'ера Чэмбэрлена заявіла, што ня будзе роўнадушна ў сярэдня-эўрапэйскім канфлікце і стане на старане Францыі. Злуч. Штаты П. Амэрыкі выявілі сваю салідарнасьць з Англіяй і Францыяй. Саветы магчыма спынілі вайну на Усходзе затым, каб мець вольныя рукі на Захадзе, апроч гэтага сканцэнтравалі на заходняй граніцы (у Беларусі і Украіне) трэцюю часьць усіх сваіх сіл (там адбываюцца таксама „манэўры“), словам, палажэньне грознае, як ніколі.

Завастрылі палажэньне яшчэ два новыя факты: 1) загад судэцкім штурмовым аддзелам, якія ўтварыліся ў Чэхаславаччыне, ужываць сілы проціў чэскіх атакаў; 2) утварэньне ў Нямеччыне г. зв. судэцкага легіёну, зложанага з уцёкшай у Нямеччыну судэцкай моладзі. Гэты легіён быццам мае аж 8 палкоў і стаіць над чэскай граніцай, гатовы да маршу на Чэхасл, так як нядаўна аўстрыйскі легіён машыраваў на Аўстрыю...

А цяпер пытаньне: што было-б, каб немцы ўдарылі? Тады ствараецца вельмі грозная сытуацыя, пры якой нават нэўтральныя дзяржавы прымушаны былі-б ваяваць. Тады Францыя і Англія выступаюць на Захадзе, Саветы — на Усходзе. Польшч і Румынія ня пускаюць савецкай арміі праз сваю тэрыторыю, тымчасам Нямеччына, заняўшы абароннае палажэньне на Захадзе, вядзе наступленьне на Чэхаславаччыну і ў рэзультаце пасьля крывавых баёў займае яе. Кажуць, што Чэх. сваімі сіламі здолее пратрымацца толькі каля трох тыдняў. Савецкія аэрапляны ляцяць на помач Чэхаславаччыне, нарушаючы нэўтральнасьць Польшчы і Румыніі. У рэзультаце гэтыя дзьве дзяржавы ня могуць захаваць нэўтральнасьці і гатовяцца на ўсе магчымасьці. Нямеччына, забраўшы Чэх., вядзе наступ на Усходзе, бароначыся на Захадзе, або наадварот — і такім парадкам маем ізноў сусьветную вайну, як гэта было 20 гадоў таму назад! Каб усьцерагчыся ад гэтага няшчасьця, паўсталі ў апошнім часе два праекты вырашэньня нямецка-чэскай калатні: 1) наладзіць плебісцыт на абшары судэцкіх немцаў; 2) склікаць міжнародную канфэрэнцыю. Апроч гэтага чуваць, што Чэхаславаччына пад націскам Англіі мае быць падзелена **на кантоны,** так як Швайцарыя. Тады вайна ізноў маглаб разыйсьціся па касьцях Эўропы.

Беларусы, як чуваць з Саветаў, не баяцца новай сусьветнай вайны. Ня толькі ў імя правіла, што „голы разбою не баіцца“, але яшчэ дзеля глыбейшых прычын; кажуць, што без вайны беларуская справа ня будзе пастаўлена на парадак дня. Некаторыя беларусы нават хочуць вайны! Нам здаецца, што вайна толькі тады была-б пажаданай, калі-б яна дала беларускаму народу нейкую карысьць, інакш кажучы, калі-б беларускі народ мог яе выкарыстаць. А калі-б вайна прынясла толькі зьнішчэньне — гэта быўбы дрэнны выхад!

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Узрыў праваслаўнае капліцы.** Уначы з 17 на 18 жніўня была ўзарвана мураваная праваслаўная капліца ў Маладэчне, якая была збудавана ў 1776 г. князем Агінскім. Пад звалінамі капліцы знайшлі сьляды падложанай там скрынкі з сільным выбуховым матар'ялам. Пасьля ўзрыву на месца злачынства прыбылі прадстаўнікі сьледчай паліцыі, адміністрацыйных і пракурорскіх уладаў, а з Вільні выехала спэцыяльная камісія. Вядзецца сьледзтва і злачынцы быццам ўжо выкрыты. Узрыў зрабіў вялікае ўражаньне ў Маладэчне і ваколіцах. Каля звалін капліцы зьбіраліся цэлыя грамады людзей.

**Віленскія вуліцы палітоўску.** У Коўне выйшла інфармацыйная кніжка (праваднік) аб Вільні, дзе віленскія вуліцы маюць літоўскія назовы, напр. вуліца „Колеёва“ названа вуліцай Братоў Вілейшысаў, вул. Пілсудскага — князя Альгерда, Тарговая — каралевы Боны, Жэлігоўскага — Басановіча, Міцкевіча — Свабоды (Laisves), Гданская — Якуба Выгодзкага і г. д. Цікава, ці ёсьць у тым правадніку вуліцы з назовамі беларускімі, хоцьбы такімі, як Фр. Скарыны, Льва Сапегі і інш.? Цікава і тое, што год таму Бел. Нав. Т-ва зьвярнулася да Віленскай Гарадзкой Рады з прапазыцыяй назваць некаторыя вуліцы Вільні заслужанымі для краю людзьмі, але дагэтуль у гэтай справе ціха...

**Памылковы пагляд.** „Kurjer Wil.“ (30.VIII.38) у вялікім рэпартажы свайго супрацоўніка, пішучага пад псэўданімам „Włod“, затрымліваецца над беларушчаньнем літоўцаў, потым іх польшчаньнем, пры-

# Уражаньні з Дзісеншчыны.

Часамі прыходзіцца чуць, што гон жыцьця беларускае вёскі дужа памальны. Гэта правільна, але ня зусім. Калі да сусьветнай вайны беларуская вёска доўга тапталася на месцы, пакуль рабіла якісь крок наперад, дык сяньня можна з пэўнасьцю цьвярдзіць, што жыцьцё вёскі разьвіваецца прышпараным тэмпам. І таму мыляўся-б той, хто хацеўбы сяньня свае высновы аб беларускай вёсцы апіраць на даваенным зь ей знаёмстве, а нават на знаёмасьці яе прад некалькі гадамі. Счэзла даваенная на ўсё апатычная беларуская вёска! Сусьветная вайна, расейская рэвалюцыя, балячкі цяперашняга часу, відаць, моцна ўскалыхнулі яе нутром і ўцягнулі вёску ў кругабег грамадзкага і палітычнага жыцьця, з якога яна ўжо ня хоча выхадзіць!

У правільнасьці гэтых думак я пераканаўся, адведаўшы сёлета сваю родную Дзісеншчыну, дзе ня бяў ўжо восем гадоў. Перш-наперш кідаецца тут у вочы зьмена формы гаспадаркі. Даўнейшыя сёлы замяніліся масова хутарамі. Камасацыя зрабіла тут вялікія поступы. Па абодва бакі 70-кілямэтровага гасьцінцу з Глыбокага ў Дзісну раскіданы амаль выключна хутары, а яшчэ дваццаць год назад хутары былі тут рэдкасьцю. Хутарскія хаткі раскіданы даволі густа, што сьведчыць аб зямельнай цеснаце. Глеба Дзісеншчыны даволі добрая (ёсьць аднак шмат імшараў) і ў гэтым годзе ўраджай удаўся. Агульна гавораць, што гаспадарыць на хутары куды лепш, як у вёсцы, але, зразумела, калі хутар ня ёсьць „карлаватым“, бо калі няма зямлі, дык і на хутары не нагаспадарыш! А хутары драбняцца дужа шпарка. Сямейныя падзелы давялі да таго, што гаспадарка з 2—3 гэктараў робіцца ўсё больш тыповай на гэтым абшары. Прырэзкі зямлі ніскуль, а купіць няма грошай.

Значныя поступы зрабіла садаводцтва: часта спатыкаюцца каля хатаў маладыя садкі. Шмат якія гаспадары садзяць нават памідоры і суніцы, якія прадаюць і гэткім чынам здабываюць улетку пару залатовак на патрэбы. З хатняе жывёлы на хутарах значна зьменшаецца колькасьць авечак, гаспадары кажуць, што разводзіць іх на хутары клапатліва. Даволі часта пры хутарскіх хатах тарчаць высокія жэрдкі з нацягнутым дротам. Гэта — радыё, амаль выключна дэтэфоны, купленыя на пошце або мясцовае канструкцыі. Ёсьць, аднак, гаспадары што маюць апараты на „лямпачках“. Ня гледзячы на вялікае здрабленьне гаспадарак і цяжкое матэрыяльнае палажэньне, эстэтычнае пачуцьцё мясцовага беларуса зрабіла вялікія поступы. Гадка пабеленыя з вонку хаты ў нутры даволі чыстыя. Стол засьцілаецца настольнікам нават у будзёны дзень, дзяўчата гадуюць вазоны, часам даволі дарагія, як фікусы, алеандры і інш., якія здабылі раўнапраўе з тутэйшымі як кажуць „базылямі“. На сьцянах вісяць фатаграфіі ня раз зусім чужых для сям'і людзей — от, абы вісела! На мух купляюць лепкі, а некаторыя гаспадары ўстаўляюць у вокны сеткі, якія памагаюць і ад камароў. Ня рэдка можна спаткаць у вокнах баконкі (фортачкі), якія дазваляюць праветрываць хаты зімой. Падлогі мыюцца не як раней ад Вялікадня да Вялікадня, але прынамся раз у месяц.

Нічога падобнага ня было тут да вайны. Маладзейшыя кажуць, што старыкі яшчэ і цяпер вурчаць на ўсе гэтыя навіны. Старыкі-ж агульна цьвярдзяць: „цяпер ня той сьвет, ня тыя людзі“, хоць зь іх слоў ня відаць, каб яны адносіліся да перамен ад'ёмна. І сапраўды людзі мяняюцца. Псыхіка тутэйшага беларуса перараджаецца. Гэты працэс нязвычайна скамплікаваны, але ён адбываецца на нашых вачох, прычым фэрмэнтацыя праходзіць даволі буйна. Праўда, тутэйшы беларус і надалей астаецца вялікім рэалістам і матэрыялістам. Прыймае толькі тое, у чым бачыць для сябе беспасрэдную карысьць; зьявішчы, што праходзяць перад яго вачмі, ацэньвае паводле іхняга рэчаістага значэньня, якое адгадывае наагул правільна, зрух у яго душы настаў. Гэта ўжо не даўнейшы „беларускі мужык“.

Дзе карані гэтага зруху, у чым яго сэнс?

Мне здаецца, што тут адбываецца працэс скіданьня астачаў прыгоншчыны, вызваленьне псыхікі з нявольніцкага спосабу думаньня. Гэта асабліва наглядаецца між моладзьдзю. У яе нарадзілася буйная рахманасьць. Праўда, гэта рахманасьць кіруецца часта ў дрэнны бок і выяўляецца напрыклад у бойках на вечарынках, непашане бацькоў і інш., але яна мае і добрыя староны і апошнія, здаецца, пераважаюць. Перш-на-перш моладзь чуе цану сабе, прызнае сябе роўнаю з усімі іншымі. З гутарак з маладзейшымі відаць было напр. ясна, што яны ня лічаць сябе асобамі горшай крыві ад пана, ксяндза, папа, настаўніка, а калі іх зачэпяць, дык шапкі ня здымуць і за сябе пастаяць могуць. Дрэнныя праявы гэтага працэсу ня можна разглядаць як доказы агульнага „зьдзічэньня“ тутэйшай моладзі, а значыцца пераходу ад нечага лепшага да горшага, а толькі як ад'ёмныя бакі агульна-карыснага зьявішча г. зн. нараджэньне вольнае ад прыгонніцтва душы беларускае моладзі. Калі ў катле варыцца, накіп заўсёды бывае і яго трэба зьняць, а не выварочваць усяго з катла. Гэта новая псыхіка моладзі будзе ўдзячнай глебай для беларушчыны, на якой яна зможа масава і буйна ўзрасьці. Доказаў гэтага кінулася ў вочы шмат. Успомню некаторыя. Перш-на-перш спасьцярагаецца зьмена ў адносінах да беларускае мовы. Пабеларуску тут гаварылі заўсёды. Але калі да вайны наагул, а старыкі часта і цяпер, лічылі беларускую мову „простай“ і ахвотна бачылі, калі іхнія дзеці навучаліся гаварыць папанску (г. зн. парасейску, або папольску), моладзь адносіцца да сваей мовы інакш. Яна ўжывае яе **зусім сьведама** як сваю і ня лічыць ані ня горшай ад іншых — польскай або расейскай. Моладзь гаворыць папольску ў урадах, з вучыцелем або з паліцыянтам — „каб хутчэй дабіцца патрэбнага і не дражніць“, як кажуць, але між сабой гавора толькі пабеларуску і з поўнай сьведамасьцю сьмяецца

чым кажа, што беларусы ў некаторых зах. мясцовасьцях Віленшчыны не шануюць, а нават ня любяць сваей беларускай мовы, уважаючы яе за нешта брыдкае і горшае за польшчыну. Далей цьвердзіць, што „беларускае насельніцтва дабравольна хоча пазбыцца сваей роднай мовы і просіць спэцыяльна польскіх школ“. Рэпартаж паходзіць пераважна з Зулава (бацькаўшчыны Я. Пілсудскага).

На гэтае трэба адказаць п. Влод. што ён да вельмі зложаных і заплутаных праблемаў падыходзіць з надта простымі катэгорыямі. Такая справа, як стыканьне і ўзаемная пэнэтрацыя беларускіх, літоўскіх і польскіх уплываў на Віленшчыне вельмі запутаная і вымагае грунтоўных досьледаў. Перш за ўсё аўтар памінуў уплыў Кат. Касьцёла, які ў гэтай справе адыграў рашучую ролю. Ідучы за практыкай Кат. Касьцёла **ў** нас, які, памінуўшы агульнае **каталіцкае** правіла, каб вясьціць эванэлію ў роднай мове народу, навучае беларусаў і часткова літоўцаў **папольску** і давёў да таго, што кат. насельніцтва прывыкла глядзець на польскую мову, як на мову свайго роду літургічную, якая варта большай пашаны, чым мова беларуская. Гэта здараецца там, дзе насельніцтва яшчэ цёмнае і нясьведамае і ўважаем, што польскаму публіцысту гэтым хваліцца ня можна. Там, дзе дайшло ўжо беларускае ўсьведамленьне, гэтае праканаьне аб вышшасьці польскай мовы над беларускай уступае, толькі, трэба прызнаць, не на карысьць польшчыны і Кат. Касьцёла. Усьвядомленыя беларусы маюць да Касьцёла жаль, што трымаў іх у нясьведамасьці — і ў рэзультаце адварочваюцца ад яго. Гэта адно. А другое, што п. Влод. свае ўражаньні з Зулава (тамашнія настроі цяпер для ўсіх зразумелы) перанёс і пашырыў на ўсю зах. Віленшчыну, а тут якраз спасьцерагаецца іншае зьявішча, іменна, наварот да бел. мовы. Гэта сьцьвярджаюць нават польскія публіцысты (напр. Я. Мацкевіч з „Słowa“). Дык нашто такая пісаніна? Няўжо толькі дзеля „радкоў“? А можа дзеля ўспакаеньня ўласнага сумленьня?

**Працы ці зямлі?** Гэты-ж самы п. Влод. у „Kur. Wil.“ (27.VIII.38) затрымоўваецца над палажэньнем нашай вёскі і сьцьвярджае, што гэта вёска перажывае вялікі матар'яльны і маральны крызыс. Паміж іншым кажа, што камунізм сярод моладзі выклікаецца **голадам ідэі.** Моладзь гэты голад адчувае, бо штораз болей пачынае інтарасавацца культуральным і грамадзкім жыцьцём. Далей аўтар гаворыць аб **голадзе зямлі,** бо нават там, дзе праводзілася нядаўна камасацыя, нярэдка трапляюцца выпадкі, што на 6-ці гэктарах сядзяць 4 браты і 2 сёстры, пры падзеле для кожнага з іх выпадзе па адным гэктары! Але адна-гэктаровая гаспадарка — гэта ўжо голад і моладзь жыве ў сямейным калектыве... На малых гаспадарках, маючых 4 гэктары, сядзіць па некалькі здаровых асоб, якія ня маюць чаго рабіць, бо з працай увінецца адна асоба. Дык адчуваецца і **голад працы.** Дзеля гэтага можна пачуць і такія жудасныя галасы, што лепш было-б, каб настала нейкая страшная вайна, якая-б зьнішчыла тры чверці насельніцтва, тады было-б свабадней!.. Калі гаворыцца, што моладзь скамунізована, дык трэба падаваць прычыны гэтага зьявішча. Уканцы аўтар кажа, што „голаду працы і хлеба не заспакоіцца ані місыйнай акцыяй, ані найболей вострымі распараджэньнямі. Калі ня працы, дык зямлі, але нешта з гэтага трэба будзе даць“ — канчае п. Влод.

З гэтымі думкамі трэба згадзіцца. Сапраўды ў нашым краі спасьцерагаецца голад ідэі, голад зямлі і голад працы. Калі гэтага голаду не заспакояць, будзе дрэнна.

—•—

# На беларускім грунце

### ЯШЧЭ АБ „НАШЫМ ЗОЛКУ“.

У мінулым нумары „Б. Фр.“ мы прысьвяцілі многа ўвагі аднаднёўцы эсэраў „Наш Золак“, а галоўна надрукаванай у ім прамове Віктара Чарнова. Цяпер паведамляюць нас з Прагі, што В. Чарноў не гаварыў нават палавіны таго, што напісаў у „Наш Золак“, дый ня мог гаварыць, бо яму ані беларусы, ані ўкраінцы, прысутныя на хаўтурнай акадэміі па д-ру Т. Грыбу, не далі-б гэтага ўсяго сказаць, што напісана ў „Н. Золак“. У прамове, надрукаванай у „Н. Золку“ праводзяцца вялікадзяржаўніцкія расійскія тэндэнцыі, з якімі ані беларусы, ані ўкраінцы згадзіцца ня могуць. Дзеля гэтага „прамова“ В. Чарнова, надрукаваная ў „Н. Золку“ зьяўляецца проста фальсыфікацыяй... Гэтак пішуць з Прагі.

На наш пагляд, фальсыфікацыя тут не адыгрывае такой ролі, як сам факт надрукаваньня **такой, а ня іншай** прамовы ў „Н. Золку“. Бо фальсыфікацыя сьведчыць толькі аб асабістай нячэснасьці аўтара, а надрукаваньне прамовы сьведчыць аб ідэолёгіі як аўтара так і выдаўцоў. Гэта прамова паказала, якую мае **сапраўдную** ідэолёгію В. Чарноў і па якой лініі ідуць беларускія эсэры. Гэтую лінію мы назвалі **бездарожжам!**

### НЕАДПАВЕДНЫ І ШКОДНЫ ЗАГАЛОВАК.

У ліпні сёлета выйшла ў польскай мове брашура Ф. Акінчыца пад заг. „Jak Komintern organizował ruch białoruski“. Зьмест брашуры такі самы як і даўнейшых брашур Ф. Акінчыца, іменна, выказваньне правакацыйнай работы Камінтэрну адносна беларускага руху, работы, вядучай да ліквідацыі гэтага руху. У гэтай брашуры кідаецца ў вочы загаловак, які ня толькі нязгодны з праўдай і нязгодны са зьместам брашуры, але нават б'е па ўсім беларускім руху. Бо з загалоўка выглядае, што Камінтэрн арганізаваў увесь беларускі рух! А калі ўвесь, значыць — і нацыянал-сацыялістаў і самога грам. Акінчыца! Ціж гэта праўда? Дык ці ня лепш было-б даць болей адпаведны загаловак?

На наш пагляд Камінтэрн ня то што не арганізаваў ніякага беларускага руху, але **ліквідаваў** яго — і то ня толькі у Саветах, але і за межамі, у тым ліку і ў Польшчы. Брашура Ф. Акінчыца, а такжа віл. радыё, якое бадай кожную нядзелю рэклямуе брашуру, падаючы яе **загаловак,** робяць вялікую шкоду беларускаму руху.

### КАНФІСКАТЫ „БЕЛ. ФРОНТУ“.

Папярэдні нумар (8-мы) „Бел. Фр.“ быў сканфіскаваны за артыкул у „Зацемках з жыцьця“ аб ведамых падзеях у Холмшчыне. Пасьля канфіскаты быў выданы другі наклад. У гэтай-жа справе было сканфіскавана пасланьне Сыноду Праваслаўнай Царквы ў Польшчы і пасланьне Уніяцкага Украінскага Мітрапаліта А. Шэптыцкага. Была канфіскавана такжа польская прэса, дзеля гэтага мы ад абгаварэньня гэтай справы ўстрымліваемся.

Дня 28.VII.38 Акружным Судом у Вільні была пацьверджана канфіската нумару 7-га з дня 5.VII. сёлета за надрукаваньне артыкулу „Загад зразаньня беларускіх брамаў“. У артыкуле, паводле судовага прысуду, былі фальшывыя весткі, могучыя выклікаць публічны неспакой.

Дня 18.VIII.38 Віл. Акружны Суд пацьвярдзіў канфіскату нумару 8-га „Б. Фр.“ (з 5.VIII) за артыкул „Шкоднае змаганьне“, у каторым, паводле прысуду, пададзены фальшывыя і могучыя выклікаць публічны неспакой весткі аб веравызнальных адносінах на Холмшчыне.

### РЭФЭРАТ АБ ПАХОДЖАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ.

У першай палавіне жніўня адведаў Вільню ўкраінскі гісторык праф. Т. Коструба, які дня 12.VIII прачытаў у Бел. Навук. Т-ве рэфэрат на тэму: „Калі паўстала беларуская нацыя“? Пасьля грунтоўнай

---

з тых, што прабуюць гаварыць папольску або парасейску.

У ваднэй вёсцы напр. селянін ажаніўся з маскоўкай, будучы дзесь работнікам каля Пецярбурга. Восьжа гэтая жанчына з сваей напалову маскоўскай гаворкай зьяўляецца аб'ектам бязупынных насьмешак, асабліва на таварыскіх вечарынках г. зв. складчынах, што надта ўвайшлі ў моду (гэтыя вечарынкі ладзіць ня толькі моладзь, але і жанатыя) за складкі, якія ўносяцца грашмі або прадуктамі; адбываюцца яны на якоесь сьвята, напр. Міколу — тады завецца „мікольшчынай“, Купалу — „купальшчынай“. Асабліва „сьмешныя“ і часта паўтараныя чужыя словы служаць мянюшкамі для таго, хто іх ужывае, напр. гавораць: „Значит“ ужо жнець (гавора „значит“ заместа „значыцца“), „Мол“ паехаў у горад (ужывае расейскае слоўца „мол“), „Іжэля“ захварэў (ужывае польскае „jeżeli“). Носьбіты гэтых мянюшчак— людзі старэйшыя. Гэта ёсьць свайго роду змаганьне за чысьціню беларускае мовы. І сапраўды, мова гэта ў моладзі нязвычайна чыстая, а пануе яна безконкурэнцыйна на вёсках, хутарах, хвальварках (асабліва дзе собсьнікі праваслаўныя) мястэчках і нават у згалелага дзісенскага мяшчанства, якое часта спатыкаецца з вёскай, наймаючыся на рожныя працы. Дзеці асаднікаў, якіх тут шмат, ведаюць беларускую мову. Змаганьне з беларускай мовай тут ёсьць толькі „marzenie ściętej głowy“.

Наглядаецца такжа наварот да беларускай песьні. Зразумела іх не пяюць бяз дай-прычыны. Але калі ёсьць аказія, напр. хрэсьбіны, купальле, пачатак жніва, дажынкі, вясельле і г. д. песень пяецца нязвычайна многа. Пяюць ня толькі старыя жанчыны, але вялікі ўдзел прыймае моладзь. Нават дзесяцігадовыя школьнікі ўмеюць многа песьняў. Гурба дзяцей, якім я паказаў як рабіць „гімнастыку“, даведаўшыся, з майго пытаньня, што я ня ведаю, якую песьню пяюць жнеі ў полі і хочучы хоць у гэтым даказаць і сваю перавагу, гуртам пачалі мне тлумачыць, пяяць, разказваць, калі якая песьня пяецца, хто найлепш у вёсцы і ваколіцы пяець, прычым свае выясьненьні пацьвярджалі прыкладамі, заводзячы тую ці іншую песьню. Здараецца, што хтось запяе ў вадзіночку польскую песьню, якой навучыўся ў школе, але гэта зьявішча ня мае глыбейшых каранёў. Счэзаюць расейскія песьні, як „Последний нонешний денечек“, „Солнце всходит и заходит“, і іншыя, гэтак распаўсюджаныя тут да вайны і беспасрэдна па вайне.

Усё больш шырыцца лявоніха, хоць яшчэ далёка да таго, каб яна зрабілася агульным танцам, але шмат дзе вечарынкі пачынаюць і канчаюць лявоніхай. Танцуюць яе з фігурамі. Затое куды больш умеюць яе пяяць. Да гэтага шмат спрычыніліся пліты Забэйды-Суміцкага. У ваднэй вёсцы мне расказвалі, што калі хтось дастаў пліту з Лявоніхай, слухаць яе сабралася ўся вёска ад малога да вялікага. Старыкі плакалі, чуючы гэту сваю песьню ў гэтак мастацкім выкананьні. Маладыя зарэагавалі ў той спосаб, што зараз-жа навучыліся яе на памяць. Пліта ў працягу пару тыдняў не гадзілася да ўжытку. Наагул грамафоны і патэфоны спатыкаюцца тут часта. За плітамі Суміцкага ганяюцца, аб іх чулі, але наракаюць, што трудна дастаць. Адзіная жыдоўская крама ў Дзісьне, як казалі, заказы спаўняе надта кепска. Цікава было-б даведацца, ці няма тут якойсь перашкоды... Некаторыя, будучы ў Вільні, шукалі па крамах гэтых плітаў, але не знайшлі. Магчыма, ня ведалі дзе прадаюцца. Пажадана, каб бел. прэса зьвярнула на гэта большую ўвагу і падавала адрасы, дзе можна іх купіць, бо пліты Суміцкага на вёсцы маюць каласальнае значэньне.

Усе больш здабывае тут належнае сабе месца беларускі каляндар, пераважна адрыўны. Між праваслаўнымі ён выцясьняе расейскі. Апрача таго, што ён беларускі, агульна кажуць, што ён куды багацейшы і цікавейшы. Але і тут продажа наладжана кепска. З Вільні яго ніхто ня выпісвае, можа адзінкі, а купляюць у перакупшчыкаў. Адносна цаны на яго, дык напр. летась у лістападзе і сьнежні плацілі каля Дзісны аж па 1,90 зл., (тады як у Вільні каштаваў — 50 гр.), а расейскі і польскія на вёсцы каштавалі па 40 — 50 гр. І ўсё-ж куплялі беларускія! Пры наладжаньні прадажы і асабліва цаны, беларускі каляндар тут між праваслаўным насельніцтвам мае пэўныя шансы ў найбліжшым часе выціснуць усе іншыя. Аб карыснасьці гэтага зьявішча гаварыць ня прыходзіцца.

Моладзь ня чытае тут ані польскае ані расейскае літэратуры. Спатыкаюцца толькі ў гэтых мовах кніжкі практычнага характару— аб садоўніцтве, пчалярстве, земляробстве і ім падобныя. Адзінкі, якія маюць сякую гэткую бібліятэку беларускую, спатыкаюцца, але рэдка. Ад іх пазычаюць іншыя. Можа нястача беларускае бытавое літэратуры, а можа жаданьне выліць на паперу свае думкі праз мясцовых „пісьменьнікаў“ якім недзе друкавацца, парадзілі тут сваю бытавую „літэратуру“ ў вершаванай хворме. Мне ў некалькіх мясцох прышлося сустрэцца з гэткай літэратурай. Гэта даўжэзныя вершаваныя паэмы, апісваючыя якоесь здарэньне, усім ведамае ў дадзенай ваколіцы. Здарэньне — гэта якісь цікавы выпадак з чыйгось жыцьця. Апісваецца выпадак з боку гумарыстычнага, хоць часам ён зусім не дае асноў да гэткага адношаньня. Адну падобную „паэму“ я перапісаў. Аўтары іх хаваюць свае прозьвішчы. Псыхолёгічна „паэмы“ стаяць нішто, але вершы слабыя. Распаўсюджваюцца яны так, што ў сьвяткі дзяўчаты або хлопцы з вёскі, дзе яна ўжо ёсьць, прыносяць у другую і там яе чытаюць, заўважваючы, як спрытна аўтар штось зацеміў, ухапіў і прыгэтым ўсе сьмяюцца; ня раз нават і над чужым няшчасьцем. Абшар распаўсюджваньня гэтых твораў абмяжоўваецца да тых ваколіц, дзе яна можа быць „цікавай“, г. зн. дзе ведаюць людзей у „паэме“ апісаных. „Творы“ гэтыя пішуцца, зразумела, толькі пабеларуску, але калі апісваная асоба ўжывае ў гутарцы, прыкладам, якіясь расейскія або польскія словы, гэта абавязкава адцемваецца дзеля вялікшага сьмеху. Гэта ўсё ёсьць праявы, каторыя даказваюць, што беларушчына ў тутэйшай моладзі мае глыбокія карані.

(Канец будзе).

**М. Ш.**

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

У жніўні па сьвеце хадзілі **ваенныя весьці**, асабліва каля Чэхаславаччыны. Ваенным падзеям на Далёкім Усходзе і ваенным весьцям на Блізкім Захадзе мы пасьвячаем спэцыяльны артыкул на іншым месцы. Тут хацелі-б толькі зьвярнуць увагу на гарачку, якая праяўляецца ў будове вялізарных украпленьняў і то бадай на ўсіх граніцах. І так — **немцы**, як чуваць, кончаць ужо магутную „лінію Зыгфрыда“ напроць гэтак сама магутнай францускай лініі „Мажыно“; **Саветы** скончылі будову ўкрапленьняў ад Фінскай затокі да Чорнага мора, высяляючы адтуль насельніцтва, цяпер украпляюць Ленінград; апроч гэтага ня пусьцілі да хаты чарговага гадавіка, які скончыў службу, што называюць заграніцай скрытай мабілізацыяй; **Італія** ўкрапляе выспу Пантэлярыю, што ляжыць у найвузейшым месцы Міжземнага мора (паміж Сыцыліяй і Тунісам), каб на выпадак вайны перарэзаць Англіі дарогу на Суэскі канал і ў Індыю; выспу нядаўна адведаў сам Мусоліні; апроч гэтага Італія ў апошніх днях жніўня пачала ўкрапляць францускую граніцу, высяляючы францускае насельніцтва; **Чэхаславаччына** правяла на нямецкай граніцы сваю „лінію Мажыно“, за якою думае бараніцца ад нападу — словам маем нейкі шал у будове ўкрапленьняў. Апроч гэтага пачалі гаварыць аб „маланкавай вайне“, г. зн. такой, якая пачнецца як маланка, раптоўна, без аб'яўленьня, каб неспадзяваным нападам здушыць ворага, раней чым ён апамятаецца і прыгатуецца. Гэтак маюць быццам паступіць „дынамічныя“ дзяржавы: Нямеччына і Італія, якія доўга вайны вясьці ня могуць, бо ня маюць сыравіны і якіх уся надзея выйграньня ляжыць толькі ў „маланкавым“ нападзе. У такім нападзе галоўную ролю маюць адыграць аэрапляны і змотарызаваныя дывізіі, якія маланкай наляцяць на суседнюю краіну. Аэрапляны маюць зьнішчыць лётнішчы, амуніцыйныя фабрыкі і камунікацыйныя цэнтры, а змотарызаваныя часьці, (танкі і цяжкая артылерыя) — украпленьні. Гэтакія цяпер ходзяць ваенныя весьці.

Апроч ваенных весьцяў маем яшчэ такія факты: 1) вялікія нямецкія манэўры, 2) прыезд вугорскага рэгента Горті (заступніка караля) ў Немяччыну, 3) вайна ў Кітаі і Гішпаніі, 4) штораз большы тэрор і контр-тэрор у Палестыне (агульна-музулманскі кангрэс у Каіры адбудзецца 7.X), 4) канфлікт на Далёкім Усходзе і Блізкім Захадзе, аб якім мы пішам на іншым месцы. Трэба яшчэ адцеміць адкліка199ньне польскай дэлегацыі з Лігі Народаў (Польшч астанецца там у ролі абсэрватара) і масавае высяленьне з Італіі жыдоў, для каторых сапраўды прыходзіць чорная часіна.

## НЯМЕЦКІЯ МАНЭЎРЫ.

Нямецкія манэўры, якія пачаліся 15.VIII.38 і будуць трываць аж да лістапада, выклікалі вялікі неспакой ня толькі ў суседзяў, але і па ўсім сьвеце. Кідаецца ў вочы колькасьць пакліканых на манэўры рэзэрвістаў (быццам паўтара мільёна!) і месца манэўраў (каля Чэхаславаччыны).

Апроч гэтага зварочвае на сябе ўвагу забарона выяжджаць заграніцу мужчынам да 65 гадоў, мабілізацыя самаходаў, сялянскіх падводаў, рэзэрвістаў, а нават жанчын, якія будуць заступаць змабілізаваных мужчын. Кажуць, што такіх вялізарных манэўраў ня было яшчэ ад Вялікай вайны ў ніводнай дзяржаве. Дык усе шукаюць **мэты** гэтых, так кэштоўных, манэўраў. Самі немцы заяўляюць, што яны маюць на мэце толькі вывучэньне рэзэрваў, якіх яны ня мелі права вучыць пасьля Вялікай вайны, аднак гэтаму ня ўсе вераць і шукаюць іншых прычын. Найболей згодны з тым, што гэтыя манэўры маюць на мэце дэмонстрацыю нямецкай вайсковай сілы, асабліва пад адрасам Чэхаславаччыны. Пабачыўшы такія сілы, Чэх. можа збаяцца і пайсьці на ўступкі. Але іншыя падазраюць, што ням. манэўры — гэта скрытая мабілізацыя і што немцы будуць манэўраваць і, манэўруючы, неспадзявана ўдараць. Дзеля гэтага некаторыя суседзі Нямеччыны зьвярнуліся з афіцыяльным запытаньнем да нямецк. ураду, што гэтыя манэўры значаць?

А Англія наладзіла вялікія манэўры сваей флёты, якія будуць трываць якраз столькі часу, сколькі нямецкія манэўры... Вялікую сэнсацыю выклікаў прыезд на францускую граніцу самога Гітлера, які прыехаў туды агледзець украпленьні. Кажуць, што гэта была дэманстрацыя процiў Францыі, каб паказаць, што ўкрапленьні ўжо гатовы...

Апроч вайсковых манэўраў Нямеччына вядзе і дыпляматычныя манэўры. Выславам гэтых манэўраў быў прыезд у Бэрлін шэфа францускага лётніцтва ген. Вюймэна, шэфа італійскага лётніцтва ген. Бальбо, а над ўсё прыезд вугорскага рэгента Горті.

Пры ўсім гэтым усе чакаюць гадавога кангрэсу нац. сац. партыі, які адбудзецца ў Нюрнбэргу ад 5 да 12 верасьня. На ім Гітлер мае абвясьціць дэклярацыю аб міжнародным палажэньні і маюць быць вынесены важныя пастановы, між іншым і ў справе Чэхаславаччыны. Быццам Гэнляйн чакае на інструкцыі Кангрэсу.

## ПРЫЕЗД РЭГЕНТА ГОРТІ Ў НЯМЕЧЧЫНУ.

Прыезд гэты мае вялікае палітычнае значэньне: ён азначае саюз паміж Вугрыяй і Нямеччынай. А гэты саюз для Балкан мае сваё асаблівае значэньне. Там, як ведама, спатыкаюцца англійска-францускія ўплывы — з аднаго боку, а нямецка-італійскія — з другога. Першы блёк хоча перацягнуць на свой бок балканскія дзяржавы пры помачы пазычак і золата, а другі — пры помачы эканамічных і гандлёвых карысьцяў. Няма дзіва, што золата перамагае — і некаторыя балканскія дзяржавы, атрымаўшы пазыку (Грэцыя, Румынія, а нават Баўгарыя), дэкляруюць сваю прыхільнасьць для Англіі і Францыі. Каб перацягнуць на свой бок Турцыю, Францыя ўступіла ей нават цэлы сырыйскі вокруг — Александрэтту! Зьвязаная з Балканамі Вугрыя займае іншае становішча: яна не спадзяецца на ніякую пазыку, дзеля таго, што варожа адносіцца да Малай Антанты (Чэхаславаччыны, Румыніі і Югаславіі), якія пасьля Вялікай вайны разабралі яе дзяржаўную тэрыторыю. Затым яна болей ар'ентуецца на Нямеччыну і Італію, якія жадаюць рэвізіі сяньняшніх граніц. Рэгент Горті прыехаў у Ням. з цэлым сваім штабам, іменна, з прэм'ерам, з міністрам загран. спраў і нават з міністрам вайсковых спраў. Нямеччына з свайго боку паказала ім сваю сухапутную і марскую сілу на манэўрах і дэфілядах. Паводле прэсавых вестак Нямеччына ў гутарках з вугорскімі палітыкамі старалася выпрацаваць супольны з Вугрыяй фронт адносна Чэхаславаччыны і перашкодзіць павароту на вугорскі трон Габсбургаў. Саюз з Вугрыяй дасьць Нямеччыне выхад на Балканы, асабліва да румынскай нафты, дасьць на выпадак вайны вугорскую пшаніцу і іншыя прадукты. Трэба тут адцеміць, што саюзу з Вугрыяй шукала ў сваім часе і Польшч, будуючы саюз нэўтральных дзяржаў, аднак без рэзультату.

Прыезд рэгента Горті ў Бэрлін даў Вугрыі адразу тую карысьць, што канфэрэнцыя Мал. Антанты, якая ў гэтым часе адбывалася, прызнала за Вугрыяй правы на ўзбраеньне, чаго Вугрыя дагэтуль ня мела. Дадзена ёй гэтае права, каб устрымаць яе ад Нямеччыны. Ці не запозна? Гэтакае самае права дадзена ў жніўні і Баўгарыі.

## НАПРУЖАНЬНЕ АДНОСІН ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЙ і ГДАНСКАМ.

У апошніх часох заўважваецца завастрэньне адносін паміж Польшчай і Гданскам. Аб гэтым сьведчаць такія факты: пабіцьцё ў Гданску польскага скаўта за тое, што не хацеў прывітаць пагітлероўску нямецкі штандар; акалечаньне польскага чыгуначніка Вініцкага (яго выкінулі з цягніка) таксама за тое, што не хацеў вітаць пагітлероўску. Пасьля гэтых фактаў польскае грамадзянства на Памор'і пачало байкатаваць ням. прэсу і ўстановы, а часьць польскае прэсы зьмясьціла вострыя артыкулы процiў Гданска і процiў Нямеччыны. У адказ на гэта гданскія ўлады забаранілі прывозіць у Гданск польскія газэты з ІКС на чале.

Пазнанскі санацыйны „Nowy Kurjer“ зьмясьціў вестку, што ням. консул у Гданску перапраўляе ў Нямеччыну немцаў з Польшчы, прызваных у войска, і што з іх творыцца ў Усх. Прусіі „паморскі легіён“, так як быў створаны ў сваім часе „аўстрыйскі“ легіён, а цяпер „судэцкі“...

## ГІШПАНІЯ і КІТАЙ.

**У Гішпаніі** ў жніўні месяцы ішлі цяжкія і крывавыя бітвы паміж рэспубліканцамі і франкістамі, аднак без рэзультату. У апошнім часе атакуюць ня толькі паўстанцы, але і рэспубліканцы, якія атрымалі помач з Францыі і мясцамі цісьнуць паўстанцаў. Дзеля гэтай помачы псуюцца дарэшты адносіны паміж Італіяй і Францыяй. Італійская прэса піша, што гаварыць аб згодзе паміж Італіяй і Францыяй можна будзе толькі тады, калі скончыцца вайна ў Гішпаніі. Але калі яна скончыцца?

**У КІТАІ** паступ японцаў, прарваны савецкай дэманстрацыяй пад Чанг-Ку-Фэнг, распачаўся з нябывалай сілай. Цяперашняя мэта японцаў — узяць другую па Нанкіне сталіцу Кітаю — Ганкоў. Там маюць адбыцца, як кажуць японскія дзейнікі, дэцыдуючыя падзеі. Наступ свой на Ганкоў японцы вядуць 5-ма арміямі, якім памагае ваенная флёта на Янг-Цэ-Кіянг (Сіняй рацэ). Здабыцьцё Ганкоў, заявіў нядаўна японскі вайсковы міністар Ітагакі, гэта толькі квэстыя часу. І калі-б Чанг-Кай-Шэк перанёс сваю кватэру ў іншы горад, казаў далей мін. Ітагакі, то і гэта не адыграла-б вялікай ролі, бо Японія свае пляны ўсёжтакі правядзе. А гэтыя пляны ідуць да таго, каб стварыць вялікі гаспадарчы блёк паміж Японіяй, Кітаем і Манджурыяй. Гэты блёк будзе створаны без Чанг-Кай-Шэка, з якім Японія ня захоча гаварыць, калі-б нават Кітай паддаўся Японіі... Гэтак казаў японскі міністар. Нам здаецца, што выгнаць Чанг-Кай-Шэка з Кітаю будзе трудней, чым нэгуса з Абісыніі і Японія яшчэ паложыць шмат трудоў, пакуль заваюе Кітай. Пры гэтым магчымая яшчэ новая савецкая дэманстрацыя, якісь новы Чанг-Ку-Фэнг! Маскоўскія „Известия“ пішуць, што бой за Ганкоў будзе даўгі і крывавы. Трэба яшчэ адцеміць, што пасьля выезду з Кітаю (у чэрвені) германскіх інструктароў з ген. Фалькэнгаўзэнам на чале, у Кітай прыехалі савецкія інструктары, якія акружылі Ганкоў трайною лініяй акопаў і кіруюць абаронай. Кажуць, што пры савецкай і іншай помачы Кітай зможа яшчэ доўга ваяваць з Японіяй. Ходзяць такжа чуткі, што паміж Японіяй і Нямеччынай у справе Кітаю няма аднолькавых поглядаў. Доказам гэтага было прабываньне да апошніх часоў ням. вайсковай місіі ў Кітаі.

Паводле апошніх вестак першая абаронная лінія каля Ганкоў ужо занята японцамі.

---

аналізы гістарычных дакумэнтаў, праф. Т. К. дайшоў да вываду, што пачатак беларускай нацыі трэба аднесьці да VIII-га стагодзьдзя, калі ўжо беларускія плямёны былі заняўшы сваю этнаграфічную тэрыторыю. Пасьля рэфэрату наступіла даўжэйшая дыскусія, якая паглыбіла і яшчэ болей выясьніла некаторыя квэстыі. Рэфэрат гэты, як мы чулі, будзе надрукаваны ў чародных „Запісах“ Белар. Нав. Т-ва.

## БЕЛАРУСЫ і КАНГРЭС НАЦ. МЕНШАСЬЦЯЎ.

25 і 26 жніўня ў Штокгольме (Швэцыя) адбываўся чародны Кангрэс Нац. Меншасьцяў. На Кангрэс атрымалі запросіны і беларусы, якія даўней гуртаваліся каля Бел. Нац. Камітэту, але з прычын ад сябе незалежных, і сёлета ад пасылкі дэлегацыі на Кангрэс адказаліся. Ня выслалі сваіх прадстаўнікоў і літоўцы з Польшчы. Ад украінцаў, як паведамляе „Свобода“, дэлегаты выехалі.

## РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Беларуская гімназія ў Вільні, якая дагэтуль называлася Беларускай Філіяй Дзяржаўнай Гімназіі ім. Славацкага ў Вільні будзе называцца Белар. Філіяй Гімназіі і Ліцэю ім. Ад. Міцкевіча ў Вільні. Бел. Філія будзе мясьціцца ў тым самым памешканьні. Экзаміны ў Бел. Філію пачаліся 29.VIII, наплыў кандыдатаў вялікі, даволі сказаць, што на 10 месц у 1-шую клясу здавала болей 30 кандыдатаў. Час вялікі пашырыць памешканьне Бел. Гімназіі, з тым, каб можна было адчыніць роўналежныя клясы.

— Аб'еднаньне Бел. Студэнцкіх Арганізацыяў (АБСА), якое памяшчаецца ў Празе (Чэхаславаччына) пасылае і сёлета сваіх дэлегатаў на зьезд Міжнароднае Студэнцкае Конфэдэрацыі, які адбудзецца ў Атэнах (Грэцыя).

— Паказалася ў прадажы новая грамафонная плітка з дзьвяма беларускімі песьнямі: „Лявоніха“ і „А ў лесе, лесе“, насьпяванымі хорам І. Саўка. Выкананьне дужа добрае, толькі чамусьці надпісы дадзены ўкраінскія, дый тыя з памылкамі. Цана 3 зал. Дастаць можна, як і ўсе іншыя бел. пліткі, у магазыне „Унівэрсаль“, Вільня, Вялікая 9. Цікава, чаму ніхто не насьпявае іншых бел. папулярных песень, як напр. „Ці сьвет, ці сьвітае“, „Чаму мне ня пець“ і інш., якія цешацца папулярнасьцю і характэрыстычнаю бел. мэлёдыйнасьцю. Знаўцы кажуць, што „Лявоніха“, выйшла ў выкананьні хору яшчэ лепш, чым у выкананьні Забэйды-Суміцкага.

---

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкялёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:

**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.